# Рэгіянальная газета

18 кастрычніка 2013 года
№ 42 (964)

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".





Тэлетыдзень 26



У Маладзечне зноў разводзяць на вадзе.

3-я старонка



Ад сваёй мовы да беларускіх песень разам з Надзеяй Карчэўскай.

20-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Маладзечанец прысвеціць песні беларускай солі і трактарам

**МАЛАДЗЕЧНА.** Выканаўца і кампазітар, а таксама майстар спорту па шахматах і бізнесмен з Маладзечна **Віталь Качаткоў** вырашыў распачаць новы праект разам з гуртам "Дразды". Такім чынам яны плануюць падтрымаць беларускія брэнды. Як распавядае Віталь Качаткоў, у планах стварыць песні, прысвечаныя трактарам "Беларусь", беларускай самай салёнай солі, найлепшым у свеце тэлевізарам "Гарызонт" і халадзільнікам "Атлант". Крыніца ідэі – поспех песні "Драздоў" "Таму што я ў кедах", пасля якой павялічыўся аб'ём продажу тавараў Лідскай абутковай фабрыкі.

## Шукаюць фотаздымкі Мядзела

**МЯДЗЕЛ.** Музей народнай славы рыхтуе выставу, прысвечаную гісторыі Мядзела. Адміністрацыя ўстановы просіць жыхароў рэгіёна, якія маюць старыя фатаграфіі Мядзела, падзяліцца імі. Можна прынесці іх у музей ці даслаць копіі здымкаў па электроннай пошце muzeum.mjadel @mail.ru або па звычайнай – па адрасе: *вул. Шаранговіча, 1, Мядзел, 222397.*

## Выстава лялек пройдзе ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** 19 кастрычніка а 17 гадзіне ў зале выстаў імя Нікадзіма Сілівановіча краязнаўчага музея адбудзецца выстава аўтарскіх лялек **Ганны Балаш**. Кожную ляльку жанчына стварае вельмі старанна, надзяляючы сваё тварэнне сэрцам у прамым сэнсе. У адным інтэрв'ю яна сказала: "Лялькі – гэта прыдуманая або непрыдуманая гісторыя. Мне вельмі падабаецца заплятаць як бы праўду ці няпраўду. А лялькі... Я збіраю, я ведаю розныя гісторыі розных людзей. І калі трапляе нейкі тэкстыль, гістарычны, або нейчая сукенка, я ведаю гісторыю гэтага чалавека і мне цікава яе перадаць далей". А яшчэ ў кожнай ёсць сваё непаўторнае імя. Лялькі майстрыхі жывуць у Маскве, Таліне, Мадрыдзе, Лондане. А вось цяпер завіталі і ў Вілейку.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**



# Анамалія: у кастрычніку зацвіла яблыня



Фота Настасі РОЎДЫ.

Сусед гаспадара дрэва Пётр Цыгалка здзіўляецца незвычайнай з'яве.

**МАЛАДЗЕЧНА. Дрэва, на якім побач з чырвоным яблыкам з'явіўся цвет, заўважылі ў Маладзечне ў раёне Лясных па вуліцы Полацкай.**

На ўчастку гаспадара, 23-гадовага **Антона Салагуба**, яго пасадзілі яшчэ чатыры гады таму. Аднак каб дрэва і цвіло, і пладанасіла адначасова, ды ў кастрычніку, здараецца ўпершыню.

– Бачыў, каб вішні цвілі восенню, але каб яблыня – першы раз, – кажа сусед гаспадара незвычайнага дрэва **Пётр Цыгалка**.

А яго жонка заўважыла, што такая з'ява да нейкай прыкметы. Але да якой, дакладна не ведае.

### Садавод: "Гэта ж няпраўда!"

Вілейскі садавод **Міхаіл Ермаковіч** ужо цягам 30 гадоў займаецца вырошчваннем і продажам саджанцаў на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства. Шмат дрэў пабачыў, але каб такое – ўсяго некалькі разоў.

– Гэта ж няпраўда! – адрэзаў спадар Міхаіл, калі мы папрасілі яго патлумачыць, што тут да чаго.

Аднак калі мы сказалі, што такое дрэва бачылі на свае вочы і маем фота, ён дадаў:

– Неяк давялося прадаваць трохгадовы саджанец, які таксама цвіў восенню. Праўда, яблыкаў на ім не было. Такое здараецца, калі рэзка змяняецца надвор'е: пацяпленне, пахаладанне і зноў пацяпленне. Але гэта нядобра, бо пасля дрэва можа пачаць хварэць, таму што ўсю энергію аддасць на тое, каб перажыць такі нестабільны перыяд. Перазімаваць дрэву будзе цяжка. Можа здарыцца, што вясной яно не зацвіце ці ўвогуле перастане плоданасіць.

**Кошт на саджанцы яблынь на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства ад 60 да 150 тысяч рублёў. Кошт залежыць ад узросту саджанцаў.**

### Распаўсюджаная з'ява

Так лічыць настаўніца біялогіі маладзечанскай СШ №5 **Алена Парахня**:

– Гэта з'ява даволі распаўсюджаная. Падобнае здараецца, калі трымаецца цёплае надвор'е. Хаця сёлета восенню надвор'е якраз пераменнае. Увогуле ў апошнія гады такія выпадкі сустракаюцца ўсё часцей і часцей у розных рэгіёнах Беларусі. Не думаю, што гэта добра адаб'ецца на дрэве, бо энергія на цвіценне пайшла перад зімой. А ў гэты час яно павінна назапашваць у сабе пажыўныя рэчывы, а не расходаваць.

**Настасся РОЎДА, Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТВОРЧАСЦЬ

# У свае 20 год “Камедыя” ўзяла чатыры дыпломы

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 4 па 12 кастрычніка ў горадзе Мікалаеве на Украіне праходзіў сёмы тэатральны фестываль міжнароднага Чарнаморскага клуба “Homo ludens” (“Чалавек, які іграе”). Беларусь на ім прадстаўлялі тры тэатры, два з якіх – з Маладзечна.**

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі за фольк-рок-оперу “Адвечная песня” ўвогуле атрымаў Гран-пры “Залаты дэльфін”. Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка” за спектакль “Канёк-гарбунок” узнагародзілі дыпломам “Лепшая сцэнаграфія і лялькі”. Не адстаў і Мінскі абласны драмтэатр: узяў адразу тры дыпломы.

### У каго лепшая роля, а хто любімец

Не паспелі напрыканцы верасня адсвяткаваць 20-гадовы юбілей “Камедыі”, як час святкаваць перамогі.

**Акцёры адзначаюць, што сама юбілярка рэдка бачыла вялікія сцэны. Звычайна даставаліся малыя і зусім непрыстасаваныя для паказу спектакляў залы.**

“Лепшай мужчынскай роляй” прызналі ігру **Аляксандра Пашкевіча**. У спектаклі ён паўстае ў вобразе селяніна Дзёмкі. Аляксандр Пашкевіч – сапраўдны старажыл пастаноўкі, адзіны, хто іграе ў “Камедыі” ад самай першай прэм'еры, што адбылася яшчэ ў 1993 годзе.

У намінацыі “Лепшая мужчынская роля другога плана” ўзяў дыплом **Сяргей Карзей** за ролю арандатара Давіда.

Ну а любімцам публікі прызналі “камедыйнага Чорта” **Алега Чэчанева**.

### “Галопам па Мікалаеве”

У Мікалаеве часу на раскачку асабліва не было. Акцёры правялі там два дні, прычым у першы быў заезд, а ў другі ўжо трэба было выступаць.

– Каб паглядзець Мікалаеў, было ўсяго гадзіны чатыры перад спектаклем, тым больш, што жылі мы недзе ў “шабанах”, – жартуе Алег Чэчанеў. – Хаця гасцініца была вельмі добрая. Карацей, паспелі толькі пафатаграфаваць асноўныя славутасці экспрэс-метадам “галопам па Мікалаеве”.

**– З Мікалаевам зразумела, а са спектаклем што?**

– Усё ж такі спектаклю 20 гадоў, а спектаклям уласціва старэць, – выказвае думку Алег Чэчанеў. – У мяне было апасенне, што тамашняя публіка не прыме нас так, як прымаюць тут. Ужо потым, падчас “круглага стала”, казалі вельмі шмат цёплых прыемных слоў. Абмяркоўвалі і тое, як спектакль змог захаваць знешне і ўнутрана, адзначалі, што засталася свежасць і пэўная навізна.

**– А ці дакаралі за што-небудзь?**

– У аснове спектакля ляжыць фальклорны сюжэт, – тлумачыць Алег Чэчанеў. – Тым часам некаторыя імправізацыі, якія ў ім ёсць, адсылаюць гледачоў у наш час.

– Аднак мы настойвалі, што спектакль сучасны і сучасныя імправізацыі да месца, – заўважае **Эмілія Ларыёнава**, якая ў спектаклі іграе Маланку, жонку Дзёмкі.

**– Ці зразумела спектакль фестывальная публіка?**

– Не з першых хвілін “уязджала” ў сітуацыю і абставіны, – кажа Алег Чэчанеў. – Пакуль стаяў за кулісамі і слухаў рэакцыю залы, думаў: “Што гэта такое адбываецца: ці будзе правал, ці будзе вялікі поспех?” Аднак і сюжэт, і ігра перамаглі.

– Справа яшчэ і ў мове, мелодыцы гаворкі, – дадае Аляксандр Пашкевіч. – Гэта не проста беларуская мова, а з асаблівасцямі 19 стагоддзя. Часам сустракаюцца слоўцы, якія і мы некалі толькі са слоўнікам разумелі. А на фестывалі – украінцы. Звычайна мы выходзім на сцэну і з першых рэплік пачынаецца рэакцыя. А тут такое завісанне. Мабыць, гледачы спачатку прызвычайваліся, прыслухоўваліся. Потым ужо пайшло як па масле. Я здзіўлены, як публіка правільна зразумела саму задуму, як правільна счытала энергетычную і сэнсавую насычанасць гэтага спектакля.


Фота забяспечана Аляксандрам ПЫЦЬКО.

Сцэна з “Камедыі”: Чорту адрываюць хвост.

### “Дзякуй за мужнасць”

– На “круглым стале” нам падзякавалі за грамадзянскую мужнасць, – адзначае Аляксандр Пашкевіч. – Таму што ў спектаклі шмат вострых момантаў і відавочная праблема народаў-братоў. Гэта асноўны стрыжань, які робіць пастаноўку сучаснай. Украінцы былі настолькі здзіўленыя такой смеласцю, што задалі пытанне: “Вы ў нас іграеце такі варыянт, а ў сябе іншы? Без усяго вось гэтага?” Хаця ў прынцыпе ніякага крыміналу няма. З пункту гледжання мастацтва, усё пададзена з вялікім густам і далікатна. Ніякіх абраз, ніхто не ходзіць з лозунгамі і ні да чаго не заклікае. Усё, што робіцца, сапраўднае мастацтва.

Акцёры “Камедыі” заўважаюць, што для ўкраінцаў беларускі тэатр – сапраўднае адкрыццё. Яго назвалі з'явай на прасторы краін былога СНГ. На думку замежнікаў, тэатр нашай краіны ў лідарах.

**Настасся РОЎДА.**

**У сераду, 23 кастрычніка, Аляксандр Пашкевіч адсвяткуе свой 50-гадовы юбілей. Цягам тыдня ў Мінскім абласным драматычным тэатры будуць ісці спектаклі з яго ўдзелам: 22 кастрычніка – “Камедыя”, 23 – “Каханне па-італьянску”, 24 – “Верная жонка”, 25 – “Сямейны партрэт з пабочнай асобай”, 26 – “Месье з рагамі, мадам з вусамі”, 27 – “Банкет”.**

АКЦЫІ

## Бібліятэчныя прыцэмкі: конкурсы, латарэі і бібліякафэ

**ВІЛЕЙКА. Дзве бібліятэкі 11 кастрычніка ўпершыню запрасілі сваіх чытачоў на бібліятэчныя прыцэмкі.**

Праходзілі яны ў гарадскіх бібліятэках №1 і №2, якія знаходзяцца ў Палацы культуры. Пасля 18 гадзін установы сустракалі сваіх сяброў упрыгожанымі: кветкамі, паветранымі шарыкамі, плакатамі.

– Праводзілі падобнае мерапрыемства дзеля таго, каб да нас маглі завітаць тыя, хто не можа прыйсці ўдзень. А таксама хацелі прыцягнуць увагу да чытання, да кнігі. Адначасова гэта і падвядзенне вынікаў нашай працы, – кажа загадчыца гарадскога філіяла №1 Вілейскай раённай бібліятэкі **Галіна Ражко**. – Вядома, хваляваліся, як усё пройдзе. Прыемна, што завітала шмат людзей. І атмасфера была не афіцыйная, а ўсё па-дамашняму.

Напачатку правялі ўзнагароджанне найлепшых чытачоў па розных намінацыях. Самы тоўсты фармуляр аказаўся ў **Святланы Астроўскай**. Самая чытаючая сям'я – у **Тамары Валынец**. У намінацыях “Папоўнім разам камерцыйны фонд” перамаглі **Часлаў Лобач**, “З любоўю да беларускай кнігі” – **Наталля Радзевіч і Зінаіда Матусевіч**, “За любоў і адданасць бібліятэцы” – **Людміла Шчогалева, Таццяна Дубовік**. Тыя з іх, якія завіталі на свята, прымалі Дыпломы і прызы.

Прайшла сустрэча з вілейскім паэтам і выканаўцам песень **Уладзімірам Цануніным**, майстрыха **Марына Узгорак** паказала свае працы: прыгожыя лялькі, карціны і іншыя вырабы.

Адбыўся розыгрыш літаратурнай бяспройгрышнай латарэі. Вялікі поспех меў салон “Магія Кнігі”: ахвотныя называлі старонку і абзац з выбранага выдання і чулі прадказанне будучыні. На выставе “Рэтрасустрэчы” чытачы знаёміліся з кнігамі выдання 40-х, 50-х гадоў мінулага стагоддзя.

Гасцям разносілі пячэнне з прадказаннямі, працавала бібліякафэ. Там можна было пачаставацца кубачкам чаю ці кавы, пагартаць выданні з выставы “Смачныя кнігі”.

– Чытачам было цікава, нават казалі, што тры гадзіны – гэта малавата, – адзначыла **Галіна Ражко**. – Будзем старацца праводзіць бібліятэчныя прыцэмкі кожны год.

Цікавымі мерапрыемствамі парадавалі юных чытачоў і іх бацькоў у гарадской бібліятэцы №2 (дзіцячай). Працавала кніжнае кафэ “Бяссонніца”, быў салодкі стол, розыгрыш латарэі “Бібліяфартуна”, гульня “Бібліяквест” па кнізе “Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна”, фотасалон, дзе дзеці фатаграфаваліся з героямі гэтай казкі. А завяршылася ўсё на двары – запускам кітайскага ліхтарыка, да якога прымацавалі плакат “Жыві, кніга”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВУЧАННЕ

## Да заняткаў па журналістыцы яшчэ можна далучыцца

**МАЛАДЗЕЧНА. Першая сустрэча адбылася ў рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты” 11 кастрычніка.**

Наступная пройдзе ў суботу, 19 кастрычніка. Пачатак а 14 гадзіне.

На першых занятках былі не толькі маладзечанцы, але і дзяўчаты з Краснага і Ілы. Калі ў вас ёсць ахвота паспрабаваць сябе ў журналістыцы, не губляйце шанец!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



## Кіно пра Вілейшчыну адкрые “Лістападзік”

**ВІЛЕЙКА. Трэці поўнаметражны фільм рэжысёра Алены Туравай “Кіндэрвілейскі прывід” па матывах навелы Оскара Уайльда адкрые конкурс фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі “Лістападзік”. Ён пройдзе 2-5 лістапада ў рамках 20-га Мінскага міжнароднага кінафестывалю “Лістапад”.**

Фільм “Кіндэрвілейскі прывід” (“Беларусьфільм”) спалучае розныя жанры: гатычную камедыю, фэнтэзі, сямейнае кіно і меладраму.

Карціна разлічаная на сямейны прагляд, і для беларускага гледача яе паказ стане прэм'ерным. У фільме задзейнічаныя вядомыя беларускія акцёры: Вячаслаў Паўлюць, Раман Падаляка, Алеся Самахавец, Валянцін Глушко і іншыя. Музыку для фільма напісаў беларускі кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, які некалькі гадоў таму ўжо працаваў над музыкай да мультфільма па творы Оскара Уайльда “Кентэрвільскі прывід”.

Сюжэт карціны такі: сям'і энергічнага прадзюсара Косціка дастаецца ў спадчыну старадаўні асабняк у Вілейскім раёне, з якім звязаная змрочная радавая таямніца. Косцік вырашае стварыць там гарадок атракцыёнаў – “Кіндэрвіль”. Сямейства пераязджае ў дом і неўзабаве сутыкаецца ў ім з... сапраўдным прывідам.

– Гэта добрая гісторыя пра барацьбу новага пакалення з памылкамі мінулага, аб непахіснасці сямейных каштоўнасцяў і адказнасці за лёсы блізкіх нам людзей, – распавядае рэжысёр Алена Турава. – У фільме шмат гумару, музыкі, каскадзёрскіх трукаў, камп'ютарнай анімацыі і яркіх спецэфектаў.

**Паводле listapad.com**

БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫЯ!

# У Маладзечне зноў разводзяць на вадзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Кансультанты пэўнай фірмы звычайна збіраюць на прэзентацыю сваіх фільтраў жыхароў з некалькіх кватэр. І ў выніку людзі пачынаюць верыць, што іх пакупка сапраўды выгадная.**

Дырэктар "Маладзечнаводаканала" **Станіслаў Бакун** гаворыць:

– Гэтыя гандляры прадаюць фільтры за 4,4 мільёна рублёў. Кажуць, што даюць скідку і зніжаюць для пенсіянераў і інвалідаў да 2,2 мільёна. А тым часам у адной з крамаў такі самы фільтр каштуе 1,3 мільёна рублёў.

**Міхаіл Міхалевіч**, загадчык аддзялення камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ўдакладняе, што якасць водаправоднай вады ў Маладзечне адпавядае ўсім гігіенічным нормам.

– Яны набіраюць ваду з-пад крана і праводзяць як бы эксперымент. Але інакш, як хімічным фокусам, гэта не назавеш. Яны дадаюць рэактывы, якія рэагуюць з солямі натрыю, калію, магнію. У выніку хімічнай рэакцыі вада мяняе колер. А гэтыя бізнесмены запалохваюць людзей, кажуць, што нібыта вада забруджаная. Аднак усе гэтыя солі неабходныя арганізму і ў водаправоднай вадзе яны ў аптымальнай колькасці. Я гаварыў з прадстаўнікамі гэтай фірмы, яны неадукаваныя ў тым, пра што гавораць. Не ведаюць нарматываў солей, хаця любы можа паглядзець іх на сайце Міністэрства аховы здароўя. Не могуць адказаць, якія солі павінны быць у вадзе і ў якой колькасці. Водаканал выдаткаваў вялікія грошы, каб з нашых кранаў цякла добрая вада.

Маладзечанскі водаканал мае міжнародны сертыфікат якасці. У краны падаецца артэзіянская вада з двух водазабораў: у Крыніцы і Гелянове.

Многія калодзежы стаяць на балансе водаканала, таму іх пастаянна маніторацць, правяраюць якасць вады. Любы можа праверыць якасць вады, набраўшы бутэльку і занёсшы ў лабараторыю водаканала.

Калі ў горадзе з вадой пытанняў больш няма, паводле слоў намесніка дырэктара водаканала па ідэалагічнай рабоце **Валерыя Мельніка**, то ў раёне некаторыя вёскі могуць мець пытанні. Жыхарам Заскавічаў, напрыклад, фільтры не пашкодзілі б.

Валеры Мельнік удакладняе, што фільтры робяць ваду больш мяккай, ад яе няма накіпу. Плаціць за бутыляваную ваду жыхарам горада ён не раіць. А калі вы збіраецеся на прыроду, танней набраць ваду з-пад крана.

Калі хто ўсё ж хоча набыць фільтр для вады, лепш купіць у праверанай краме, а не пераплачваць сумніўным прадаўцам.

На гэтым тыдні работнікі водаканала сустрэліся з прадстаўнікамі фірмы, якая прадае фільтры. Бізнесмены патлумачылі, нібыта ім скардзяцца на якасць вады.

– Але чаму ў водаканал, куды скардзіцца было б лагічна, ніхто не тэлефанаваў з нараканнямі? – распавядае Валеры Мельнік. – На прапанову паказаць эксперымент у нас, яны занерваваліся і сказалі, што сёння няма калі. Калі яны маюць ліцэнзію, то могуць гандляваць, гэта не назавеш махлярствам. Калі дакументы падробныя – імі зоймецца міліцыя. Мне шкада тых пенсіянераў, якія паддаюцца і аддаюць апошнія грошы на тое, што не вельмі трэба. А калі і трэба, то можна набыць удвая танней.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СЭРВІС

## Талоны ў дзіцячую паліклініку праз інтэрнэт

**МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечанскай дзіцячай паліклініцы пачалі выдаваць талоны да доктара праз інтэрнэт.**

Распавядае загадчыца дзіцячай паліклінікі **Іна Саўчык**:

– Гэта сістэма для нас новая, мы самі пакуль толькі асвойваем яе. Цяпер у інтэрнэт ідзе 20% талонаў, але мы не выключаем, што хутка гэта лічба можа скласці і 50%. Усё залежыць ад таго, ці будзе такая паслуга карыстацца попытам і як хутка мы ўвядзём усе дадзеныя ў электронную базу. Цяпер на сайце **talon.by** можна заказаць талоны да ўсіх нашых дактароў. Вы проста заходзіце на сайт, выбіраеце дзіцячую паліклініку горада Маладзечна, да якога доктара вам патрэбны талон, уводзіце свой адрас, але трэба, каб ён ужо быў у нашай электроннай базе. У дзень прыёму забіраеце талон у рэгістратуры.

Ці плануецца ўвесці сістэму заказаў талонаў праз інтэрнэт ў гарадской паліклініцы, адказвае загадчыца гарадской паліклінікі №1 **Святлана Дубаневіч**:

– У нас 70 000 чалавек. Цяпер мы ўводзім іх адрасы і імёны ў электронную базу. Як толькі электронныя спісы будуць гатовыя, мы таксама пачнём выдаваць талоны праз інтэрнэт.

**Наталля ТУР.**

НОВЫ ГОД

## Дзед Мароз павіншуе праз пошту

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад гэтага тыдня ўсе паштовыя аддзяленні Маладзечна і Маладзечанскага раёна пачалі прымаць заказы на віншаванне ад Дзеда Мароза.**

Інструктар паштовага аддзялення **Наталля Макарэвіч** расказала:

– Чатыры віды падарункаў ад Дзеда Мароза прапануе пошта сёлета.

Першы від – ліст-віншаванне, каштаваць ён будзе 25 тысяч па Беларусі і 45 тысяч за мяжу.

Другі від уключае ў сябе ліст ад Дзеда Мароза, упрыгожванне "Зрабі сам" і набор шакаладных цукерак. Кошт такога віншавання 70 тысяч па Беларусі і 140 тысяч, калі пасылка за мяжу.

Да падарунка трэцяга віду "памочнікі" Дзеда Мароза дададуць яшчэ цацку-бірульку, сімвал надыходзячага года. Каштаваць такі падарунак будзе 110 тысяч для Беларусі і 180 тысяч для тых, хто чакае сюрпрызу за мяжой.

Чацверты від – вялікая каробка шакаладных цукерак, ліст ад Дзеда Мароза, мяккая цацка. Абыдзецца ён у 125 тысяч для тых, хто жыве ў Беларусі, і 195 тысяч для замежжа.

Заказ аформіць трэба да 20 снежня для Беларусі і да 5 снежня для вашых сяброў ці сваякоў за мяжой, каб сюрпрыз паспеў да свята.

**Наталля ТУР.**



| Курсы валют НБ РБ | 10.10 | 17.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 150,00 | 9 160,00 |
| Еўра | 12 380,00 | 12 420,00 |
| Злоты | 2 947,24 | 2 965,84 |
| Літ | 3 583,81 | 3 595,47 |
| Расійскі рубель | 282,50 | 284,00 |
| Грыўня | 1 117,79 | 1 118,67 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9150/9220 | 9180/9270 |
| Еўра | 12370/12500 | 12400/12550 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.10 | 16.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110450 | 105700 |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45060 | 39950 |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 78500 | 88000 |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 22950 | 22300 |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | 23800 |
| **Селядзец**, 1 кг | 24800 | 24800 |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 94000 | 75000 |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | 11000 |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9550 | 8500 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | 10000 |
| **Алей** | 15450 | 14000 |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | 5000 |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | 7000 |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | 30000 |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | 9300 |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 4800 | 5000 |
| **Капуста**, 1 кг | 3500 | 3000 |
| **Морква**, 1 кг | 4000 | 5000 |
| **Буракі**, 1 кг | 4000 | 4000 |
| **Лімоны**, 1 кг | 17000 | 21000 |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | 16500 |
| **Мандарыны**, 1 кг | 25500 | 23800 |
| **Памідоры**, 1 кг | 12500 | 14000 |
| **Агуркі**, 1 кг | 10000 | 18000 |
| **Перац**, 1 кг | 7000 | 24000 |
| **Вінаград**, 1 кг | 21000 | 17000 |
| **Бананы**, 1 кг | 10500 | 11500 |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7000 | 12000 |
| **Грушы**, 1 кг | 13500 | 15500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | 12000 |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | 70000 |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | 40000 |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 20000 | 18000 |
| **Бульба**, 1 кг | 3500 | 3500 |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | 50000 |

ВУЧЭННІ

# Спецназаўцы захапілі хлопца ў цэнтры горада



Фота Наталлі ТУР.

Выступленні паказальныя — уражанні рэальныя.



Фота Наталлі ТУР.

Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч узнагародзіў лепшых работнікаў Маладзечанскага РАУС.

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта была частка паказальных выступленняў атрада спецыяльнага прызначэння.**

Яны прайшлі 10 кастрычніка на Цэнтральнай плошчы Маладзечна.

Мерапрыемствы прымеркавалі да агульнагарнізоннага агляду падраздзяленняў міліцыі і цырымоніі ўзнагароджання лепшых работнікаў. Прыграму мерапрыемстваў адкрылі супрацоўнікі міліцыі, якія прадэманстравалі, якімі зладжанымі і дакладнымі павінны быць дзеянні ўсіх падраздзяленняў міліцыі пры затрыманні злачынцаў.

Ва ўрачыстасцях удзельнічаў міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч**. Акрамя ўзнагароджання, Ігар Шуневіч уручыў падзячны ліст маці оперупаўнаважанага аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС **Паўла Мамчыца** за выдатнае выхаванне сына.

**Наталля ТУР.**



МЯЖА

## Перакрылі канал пастаўкі наркотыкаў з Літвы

**АШМЯНЫ. СМАРГОНЬ. У верасні Ашмянскі раённы суд прызнаў грамадзяніна Літвы вінаватым у кантрабандзе.**

Ён перавозіў з мэтай збыту асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва — метамфетамін. Суд прыгаварыў яго да 10 год пазбаўлення свабоды ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

27 красавіка ў пункце пропуску "Каменны Лог" у выніку зладжаных дзеянняў аператыўнікі затрымалі 52-гадовага грамадзяніна Літвы. У спецыяльна зробленым тайніку яго аўтамабіля БМВ было амаль чатыры кілаграмы метамфетаміну.

Мужчына патлумачыў, што збіраўся распаўсюдзіць наркотык у Мінску. Ён сказаў, што пачаў займацца такім небяспечным і незаконным бізнесам, таму што хацеў зарабіць.

За апошнія некалькі год супрацоўнікі Смаргонскай пагранічнай групы знайшлі на мяжы агульным лікам каля 150 кілаграмаў наркатычных рэчываў і сродкаў: амфетамін, метамфетамін, гашыш, какаін, экстазі, марыхуана, якія везлі з краін ЕС.

**Аляксандр КОЛАБАЎ, памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы.**

ЗДАРЭННІ

## Нажом паранілі мужчыну

**МЯДЗЕЛ. Пасля 20 гадзін 12 кастрычніка ў цэнтральную раённую бальніцу з пранікальным раненнем груднoй клеткі даставілі 27-гадовага жыхара вёскі Нарач (Кабыльнік).**

Устаноўлена, што каля 19.00 мужчыну ў сваім доме падчас сваркі нажом ударыў былы сужыцель яго маці, 47-гадовы жыхар вёскі Скарпоўцы Пастаўскага раёна, які быў у стане алкагольнага ап'янення, паведамляе ўпраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

Мядзельскім раённым аддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Яно караецца абмежаваннем волі на тэрмін ад трох да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад чатырох да васьмі гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У банку з барсеткі выкралі 700 долараў

**ВІЛЕЙКА. Выпадак адбыўся ў райцэнтры 5 кастрычніка.**

Каля 13.00 у зале абслугоўвання цэнтра банкаўскіх паслуг філіяла "Беларусбанка" на прылаўку каля касы 57-гадовы жыхар Вілейкі забыў барсетку.

Неўзабаве пра гэта ўспомніў. Вярнуўся ў банк, але яго барсетку ўжо знайшлі людзі і перадалі адміністратару.

— Аднак пры праверцы барсеткі гаспадар убачыў, што адтуль знікла 700 долараў, — расказаў намеснік начальніка Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. — 14 кастрычніка пасля праведзенай праверкі ўзбуджаная крымінальная справа за крадзеж.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Знайшла міну

**ВАЛОЖЫН. У лесе пад Ракавам 12 кастрычніка жыхарка горада Мінска знайшла міну часоў Вялікай Айчыннай вайны.**

— Пра здарэнне мінчанка паведаміла ў міліцыю. Яна прыехала ў лес у грыбы, але натрапіла на такую знаходку. Міліцыянеры і сапёры выявілі, што гэта мінамётная міна калібру 55 мм. Тут жа да яго знайшлі ўзрывальнік і адзін патрон калібру 7.92 мм. Небяспечную знаходку ліквідавалі спецыялісты, — паведаміў намеснік начальніка Валожынскага райаддзела ўнутраных спраў **Віталь Мінкевіч**.

**Наталля ТУР.**

СЛУЖБА 101

## Згарэла крама

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 10 кастрычніка ў вёсцы Пралескі Радашкавіцкага сельскага Савета.**

— Падчас пажару агонь знішчыў палову прыватнай крамы. На момант здарэння ў будынку людзей не было, ніхто не пацярпеў. Прычыны пажару і памер шкоды пакуль высвятляюцца, — паведаміў інжынер дзяржпажнагляду **Ігар Шыманоўскі**.

**Наталля ТУР.**

КОНКУРСЫ

# “Картафлянік” ці “Бульбінка” – адны і тыя ж дранікі


Фота Настассі РОЎДЫ.

Сёлета журы ўсё спадабалася. На фота (на пярэднім плане): Андрэй Дударчык, намеснік начальніка міліцыі, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Вілейскага РАУС, і дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў.

## Дранікі ў віленскім рэстаране беларускай кухні

Не так даўно, пакуль вандравала па Вільні, завітала ў рэстаран беларускай кухні. З прапанаваных страў абрала дранікі ў грыбной падліўцы. Неверагодна смачная рэч! Ды і пададзеная з густам: на патэльні ды з цыбулькай.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Дранікі ў грыбной падліўцы.

**ВІЛЕЙКА. У чацвер, 10 кастрычніка, прафесійна-тэхнічны каледж частаваў усіх дранікамі.**

Такое шоу ў каледжы ладзіцца пяты год запар. Дзве каманды, па чатыры чалавекі ў кожнай, смажаць на хуткасць дранікі. А журы потым частуецца ды ацэньвае, як іх падалі ды наколькі смачна прыгатавалі.

Балельшчыкі ледзь падлогу не праламалі тупатам, так хацелі падтрымаць сваіх:

– Картафлянік! Бульбінка! – выкрыквалі яны назвы камандаў.

І хоць крычалі яны аднолькава гучна, журы ацэньвала дранік: ці смачны атрымаўся, наколькі хутка яго прыгатавалі, як падалі. У выніку перамагла каманда “Картафлянік”.

Абедзве каманды атрымалі дыпломы ды грашовую прэмію. А дырэктар каледжа **Ігар Кіцікаў** набыў для навучальнай установы новае прыстасаванне для гатавання сушы.

### Як дырэктар каледжа частаваўся замежнымі дранікамі

Падчас уручэння дыпломаў Ігар Кіцікаў распавёў пра замежныя дранікі, якімі яму давялося пакаштаваць:

– Калі ў нас у гасцях былі немцы, мы іх частавалі дранікамі з мясам, – распавядае дырэктар каледжа Ігар Кіцікаў. – Яны іх з’елі і сказалі: “Ну, Ігар, будзеш у нас у гасцях, то і мы пачастуем цябе сваімі дранікамі”.

Літаральна праз паўгода мы з нашымі навучэнцамі паехалі ў Германію. І там нам прапанавалі дранікі: па форме як шарыкі, цалкам беленькія, а побач з імі не смятана, як у нас, а кубачкі са слівавым соусам. Дранікі аказаліся вельмі салодкімі. Гэта такія нямецкія дранікі.

А на мінулым тыдні мы з калегамі былі ў камандзіроўцы ў Прыбалтыцы ды Скандынавіі. Там на сняданку, шведскім стале, сярод страў, якія нам прапанавалі, таксама былі дранікі. Праўда, як у нас сырнікі: кругленькія, усе адзін у адзін. Мабыць, у іх нейкая машына-аўтамат так робіць. Але ж смятану падалі.

Дык вось я хачу сказаць, што ні адны, ні другія дранікі нельга параўнаць з тымі, якія прыгатавалі нашы каманды.

**Настасся РОЎДА.**

# алми
## СЕТЬ МАГАЗИНОВ

**УНИВЕРСАМ ул. В. Гостинец, 136**
**ГАСТРОНОМ ул. Ф. Скорины, 28**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1850 скидка 20% Сырок глазированный Мультяшки жир.23% 40г РБ Картошка/Вареная сгущенка | 3500 скидка 25% Пудинг Эрмигурт жир.3-3.2% 100г РФ Карамель/Шоколад/Ваниль | 35900 скидка 15% Сосиски Нежные в/с 1кг РБ | 36900 скидка 15% Колбаса вареная Мортаделла Ароматная Элит в/с 1кг РБ | 65900 скидка 20% Рулет к/в Панский Особый 1кг РБ | 12900 скидка 15% Пельмени Северные Особые 450г РБ |
| 33900 скидка 20% Горбуша с/м 1кг РБ | 29900 скидка 30% Сельдь подкопченная Двинская 1кг РБ | 8900 скидка 30% Шпроты в масле Рыбкон 160г РФ | 7900 скидка 25% Фасоль Вис 425г Молдова Красная/Белая | 6900 скидка 30% Кукуруза сахарная Вис 340г/ Горошек зеленый Вис 425г Молдова | 9200 скидка 25% Томаты маринованные Вис 660г Молдова |
| 6500 скидка 25% Соус томатный Минский Нежный 0.5л РБ | только в универсаме 4350 скидка 25% Приправа универсальная Традиционная 75г РФ | только в универсаме 8100 скидка 20% Рис пропаренный Янтарная долина 800г РБ | 7300 скидка 30% Квас хлебный Лидский 1.5л РБ | 8900 скидка 25% Сок АВС 1л РБ Яблоко/Ананас/Томат | 13900 скидка 30% Чай черный Гринфилд 100г РФ Грэн фэнтази/Спринг мелоди/ Голден Цейлон |
| только в универсаме 29900 скидка 30% Кофе молотый Жардин Эспрессо 250г РФ | 10900 скидка 20% Киндер Шоколад 100г РФ | только в универсаме 16750 скидка 30% Конфеты Михаэлла 250г РБ Волшебная Слива/ Волшебный Абрикос | только в универсаме 4550 скидка 25% Печенье сахарное Кухмастер 170г РФ Молочное/Злаковое/Топленое молоко | 5150 скидка 25% Крекер Кузнецкий 160-170г РФ С солью/С сыром/Луковый | 3600 скидка 20% Чипсы картофельные ПРОчипсы 60г Бекон/Сметана и лук/Сыр |
| только в универсаме 2900 скидка 20% Палочки ватные Аура Бьюти 100шт РФ | 7500 скидка 30% Прокладки гигиенические Ола Вингс Супер Солнечная ромашка 8шт РФ | 35900 скидка 25% Стиральный порошок Ариель Автомат 1.5кг РФ Колор/Горный родник/ 2в1 эффект Ленор | только в универсаме 16500 скидка 30% Зубная паста Бленд-а-Мед 100мл Великобритания В ассортименте | только в универсаме 5700 скидка 30% Порошок чистящий Биолан 400г РФ Сочный лимон/Горная свежесть/Сочное яблоко/Антижир | только в универсаме 3900 скидка 25% Салфетки Рута 100шт Украина |

## ЦЕНЫ ДЕЙСТВИТЕЛЬНЫ С 16 ПО 29 ОКТЯБРЯ 2013 ГОДА


товар, отмеченный данным ценником, реализуется в гастрономе: г. Молодечно, ул. Ф. Скорины и в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136


товар, отмеченный данным ценником, реализуется только в универсаме: г. Молодечно, ул. В. Гостинец, 136

ЗАО «Юнифуд» УНП 800016624

**Количество товара ограничено. Товар подлежит обязательной сертификации. Скидки по дисконтным картам на товары, участвующие в акции, не предоставляются. Внешний вид товаров, представленных на фотографиях, может несколько отличаться от товаров, выставленных в торговом зале. При расхождении цен, указанных в листовке и магазине, верными считать цены в магазине.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб’яву ў “Рэгіянальнай газеце”, не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎ 166**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591, |
| Ашмяны | - 01593, |
| Валожын | - 01772, |
| Вілейка | - 01771, |
| Маладзечна | - 0176, |
| Мядзел | - 01797, |
| Смаргонь | - 01592. |

**Размясці сваю аб’яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце RH.by**

# ВІНШАВАНКА

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ!**
**КЕЛЬПУТ**
**Таццяне Віктараўне**
**з Маладзечна!**



*Віншуем і жадаем быць шчаслівай, заўсёды непаўторнай, каханай і кахаць! Хай на тваёй дарозе заўсёды распускаюцца самыя прыгожыя кветкі, а там, куды б ты ні прыходзіла, заўсёды будзе свята!*

*Душой желаем не стареть,*
*Не унывать и не болеть,*
*Всегда и всё иметь сполна*
*И чтоб не встретилась беда.*
*Чтоб денег было очень много,*
*Чтоб лёгкою была дорога,*
*Чтоб радовали муж и дети,*
*Чтоб счастливо жила на свете.*

**Родныя і блізкія.**

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі А-3, лістапад 2008 г.в., 2,0 бензін, чорны металік, без прабегу па РБ, выдатны стан, тэрмінова. Т. Вэлком (8-044) 7046536, 1680133.
- Аўдзі А6, 2003 г.в., 1,9 ТДІ, седан, серабрысты металік. Т. (8-044) 7317257.*
- Аўдзі-100, 1986 г.в., бензін, добры тэхнічны стан, 2800 у.а. Т. (8-029) 3665365.
- ВАЗ-21061, 1994 г.в., 1500 куб.см, 1650 у.а., торг. Т. (8-029) 6017936.
- ВАЗ-2121, 1990 г.в., 1.6 бензін, бэжавы колер, Мядзел. Т. (8-029) 6126382.
- Івека па запчастках. Т. (8-029) 6420337, (8-029) 1490002.*
- Крайслер Гранд Ваяджэр, 2001 г.в., 2,5 CRД, 10800 у.а., торг. Т, (8-029) 5529955.
- Масквіч-2141, 1991 г.в., 1,5, ТА, страхоўка, добры стан, адзін гаспадар. Т. (8-029) 2512065.*
- Мерседэс-190, 1986 г.в., 2.0 бензін, сіні, АКПП, 1900 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-029) 3112731.
- Нісан Сірэна, 1999 г.в., дызель, 6500 у.а. Т. (8-033) 6354980.
- Опель Астра, 1996 г.в., аб’ём 1,6, хэтчбэк. Т. МТС (8-033) 6625315.
- Опель Астра, 1997 г.в., 1,7 Д, цёмна-сіні ўніверсал, добры стан, 3300 у.а. Т. (8-029) 7755938, (8-044) 7755938.
- Опель Зафіра, 2005 г.в., 1,6 г/б (прапан), 10700 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 2780058, Вэлком (8-029) 1613198.
- Опель Зафіра, 2008 г.в., 1,9 ТДІ, белы, кандыцыянер, круіз-кантроль, выдатны стан, без прабегу па РБ. Т. (8-029) 3996468.
- Опель Кадэт, 1987 г.в., 1,3, хэтчбэк. Т. МТС 7625422.
- Пежо 407, 2005 г.в., 2,0 газ-бензін, універсал, тэрмінова, нядорага. Т. (8-029) 8752093.
- Пежо-206 Плюс, цёмна-шэры, 2010 г.в., 1,2 бензін, эл/люстэркі з абаграваннем, эл/шклопад’ёмнікі, кандыцыянер, з Германіі, выдатны стан, торг дарэчы, 9800 у.а. Т. (8-029) 6716425.*
- Пежо-307, 2002 г.в., 1,4, дызель, выдатны стан. Т. Вэлком (8-029) 1611139.
- Рэно 19, 1993 г.в., 1,7 бензін, 1100 у.а. Т. МТС (8-029) 7039358.
- Рэно 19, 1993 г.в., 1,8 бензін, добры стан. Т. (8-029) 9344438.
- Рэно Гранд Эспэйс, 1998 г.в., 2,2 ДТ, 7 месцаў, без праблем, новая АКБ, новая зімняя гума. Тэрмінова, нядорага, торг. Т. (8-029) 3441528, МТС (8-033) 3488396.
- Рэно Меган-ІІ, 2005 г.в., бензін, 16 клапанаў, 98 к.с., выдатны стан, 8200 у.а. Т. Вэлком (8-029) 9121212.
- Рэно Сцэнік 2, 2008 г.в., 1,5 СДІ, клімат-кантроль, літыя дыскі, новая гума, залацісты металік, 11000 у.а. Т. (8-029) 3077300, (8-029) 3249483.*
- Сітраэн Ксара Пікасо, 2001 г.в., 1,8 бензін, металік, к/р, л/д, велюр, прабег 200 000. Т. Вэлком (8-029) 6989652.
- Сітраэн Ксантыя, 1996 г.в., серабрысты, хэтчбэк, 4100 у.а. Т. (8-029) 5044311, (8-029) 2752344.
- Сітраэн Ксантыя, 2001 г.в., 2,0 НДІ, сіні, 5300 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 5774211.
- Сітраэн С5, 2001 г.в., 2,0 газ+бензін, хэтчбэк, шэры, эксклюзіў, 7800 у.а., торг. Т. Вэлком 1711152, МТС 7530548.*
- Сузукі Ліана, 2002 г.в., 1,6, седан, 121000 км прабег, серабрысты, 1 гаспадар, не патрабуе рамонту. Т. (8-029) 5049665.
- Таёта Карола, 1994 г.в., 1,3 і, 3400 у.а., торг. Т. (8-029) 5529955, Сяргей.
- Таёта Карына-2, 1991 г.в., дызель, вішня, 2400 у.а., магчыма крэдыт. Т. (8-044) 7675581.
- ФВ Пасат, 2003 г.в., чорны, 1,9 ТДІ, 10250 у.а., усе опцыі. Т. (8-029) 1343209.
- ФВ Т-4, 1992 г.в., 2,4 дызель, дубль-кабіна, бартавы. Т. МТС (8-029) 7434973.
- ФВ Пасат В3, 1988 г.в., 1,6 газ-бензін, белы, універсал, 3300 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-029) 5589527.
- Фіят Уна, 1988 г.в., прабег 130 тыс.км. Т. (8-029) 5653736.
- Фіят Дуката, 1995 г.в., 2,5 Д, 8+1 месцаў, максібаза, добры стан, 6000 у.а., торг. Т. (8-029) 6253279.*
- Форд Сіера, 1988 г.в., 1,6 бензін, седан, белы, 1200 у.а. Т. МТС (8-029) 2800237.
- Форд Транзіт, 1991 г.в., 2,3 Д, борт 3,2 м, спарка, рухавік і КПП Мерседэс, 4999 у.а. ці абмен. Т. (8-029) 9820207.
- Форд Эскорт, 1992 г.в., 1,8Д, 1800 у.а. Т. Вэлком (8-029) 6028263.
- Форд Эскорт, 1996 г.в., 1,6 І, 16 кл, шэры металік, універсал, ц/з, г/у, эл/шкло, сд, добры стан. Т. МТС (8-029) 7052211.
- Гума R13, б/у, 4 колы з дыскамі. Т. Вэлком (8-029) 6028263.
- Гума зімняя, 175/70/R 13 на дысках. Т. (8-029) 5786917.*
- Запчасткі да а/м Жыгулі-6,7, пярэднія крылы, крыло правае задняе, капот б/у, крышка багажніка, б/у. Т. МТС (8-033) 3086067.
- Запчасткі б/у да еўрапейскіх і японскіх аўто. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*
- Запчасткі па кузаве ВАЗ-2106. Т. МТС (8-033) 3086067.
- Мост задні, ЗІЛ-130 у зборы. Т. Вэлком (8-029) 6028263.
- Па запчастках: ФВ G-4, 2000 г.в., 1,9 ТД; Аўдзі А-6, 2000 г.в., 2,7 БТ, АКПП; ФВ Т5, 2004 г.в., 1,9 ТД, МКПП; “MB Vito”, 2006 г.в., 2,2 СДі, МКПП; “Suzuki Grand Vitara”, 2000 г.в., 2,5 Б, МКПП; “Таёта Камры”, 2003 г.в., 2,4 S, АКПП; “Honda CR-V”, 2007 г.в., 2,2 ТД, МКПП, поўны прывод; “Гранд Чарокі”, 2000 г.в., 4,7 АКПП; Нісан Х Трэйл, 2008 г.в., “Міцубісі Лансер 9”, 2006 г.в., 1,6. ІП Яроўскі В.І. УНП 591801368. Т. (8-029) 2658561, (8-044) 7728292.*
- Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.
- Шыны 225/55 R 17, 4 шт, зіма. Т. (8-029) 6360730, (8-029) 8772645.

## КУПЛЮ

- А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*
- А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС** у любым стане. Т. (8-033) 6924944.*
- **А/М У ЛЮБЫМ СТАНЕ. ДОРАГА!** Т. (8-044) 7601222.
- Аўто 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- Аўто ў добрым стане, для сябе. Дорага. Т. МТС (8-033) 3711756.*
- Аўто, іншамарку, не старэйшыя за 1990 г.в., да 5000 у.а. Т. Вэлком (8-044) 4871003.*
- Аўто, любое, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-033) 6909195, (8-029) 9381683.*
- Аўто, можна з праблемамі. Т. (8-033) 6913867, (8-044) 7865274.*
- Аўто, разгледжу усе варыянты. Т. (8-033) 6912580, (8-044) 4727990.*
- Аўто, якое хочуць тэрмінова прадаць. Т. (8-033) 6909564, (8-029) 9962310.*
- Іншамарку ў любым стане. Т. МТС (8-029) 5036715, Вэлком (8-029) 6036715.*
- Запчасткі да аўто ГАЗ-21, Zuк-АО6. Т. (8-029) 1940110, (8-033) 6691056.

## ІНШАЕ

- **АЎТАРАЗБОРКА РЭНО. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ.** ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*
- **РАМОНТ ТУРБІН**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 40 кв.м, 5-паверх. Т. МТС (8-029) 8640459.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 9, кв.38, 13000 у.а. Т. (8-033) 6015279.
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5533502.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 20 кв.м, ёсць у двары гараж. Т. (8-044) 5859277, (8-029) 8568534.
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 6 мкр., 1 паверх 5-павярховага панэльнага дома, 38,1/17,5/8,8, санвузел раздзельны, кладоўка 1,8, падвал. Т. (8-0176) 74-48-83, Вэлком (8-029) 3671871.*
- 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры горада. Т. (8-029) 7539055.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Незалежнасці, 5-паверх 5-павярховага дома. Т. (8-029) 5547046.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр. Т. МТС (8-029) 8503638.*
- 3-пакаёвая кватэра ў в.Любань, Вілейскі р-н, 1/3 панэльнага, 59/37,9/8,8. ПУП “Квадратны метр”, вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г. Т. 771333, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626.
- 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул.Гагарына, 1 паверх. Т. (8-029) 7577773.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, Гродзенская вобл, 1/5 панэльнага, 58,8/43,1/6,2. ПУП “Квадратны метр”, вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г. Т. 771333, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626.
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, Гродзенская вобл, 1/5 панэльнага, 1981 г.б., 99,5/51,2/7,6. ПУП “Квадратны метр”, вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г. Т. 771333, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626.
- Гараж у ГБК-2 у Вілейцы, яма, падлога драўляная, падшытая столь. Т. (8-029) 5537683.*
- Гараж у ГБК-2. Т. (8-044) 5657451.
- Гараж у ГБК-5 у Вілейцы. Т, (8-029) 9344445, (8-044) 7386183, (8-01771) 56620.
- Гараж у ГК 32 у Маладзечне, р-н Фестывальны. Т. МТС 7726530.*
- Дача ў садовым таварыстве, шчытавы дом, уцеплены, на даху шыфер, 3 пакоі, пячное ацяпленне, вада сезонная, электрычнасць круглы год, участак 6 сотак, гаспадарчыя пабудовы, пладовыя дрэвы і кусты, першая лінія ад лесу, 200 метраў да магазіна, які працуе з красавіка па лістапад, станцыя электрычкі “Татарщызна”, Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 6400090, Сяргей.*
- Дом у Смаргоні. Т. (8-029) 1501921.
- Дом драўляны ў в.Ілья, Вілейскі р-н, цэнтральнае ацяпленне, водаправод, 10 сотак, гараж, гаспабудовы, 10 км ад Вілейскага вадасховішча, 100 м да рэчкі, траса Мінск-Нарач, 25000 у.а. Т. (8-029) 9936578.
- Дом недабудаваны ў Вілейцы, вул.Меліяратараў, ці абмяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы з маёй даплатай. Т. (8-029) 7757392.
- Дом па вул.Някрасава, ёсць вадаправод, каналізацыя, газ, тэлефон, 55000 у.а. Т. 733373, МТС (8-029) 7067870.*
- Дом у в.Івонцавічы, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 3137628.*
- Дом у в.Панара, Смаргонскі р-н, драўляны 65,9/30,7/18,9, участак 0,25 га. . ПУП “Квадратны метр”, вул.Прытыцкага, 21. УНП 190003285. Ліц. МЮ РБ №02240/0069535 ад 29.01.10 г. да 17.02.2015 г. Т. 771333, МТС (8-029) 2761676, Вэлком (8-029) 1761626.
- Дом у Вілейцы, 4 пакоі, кухня, веранда, газавае ацяпленне, водаправод, тэлефон, цагляны гараж, 6 сотак. Т. (8-107495) 6577193, (8-01771) 51059, (8-38069) 2489030.*
- Дом у Вілейцы, 4-пакоі, кухня, веранда, ацяпленне газавае, водаправод, тэлефон, цагляны гараж, 6 сотак. Т. (8-107-495) 6577193, (8-01771) 51059, (8-380-692) 489030.*
- Дом у г.п.Свір 80 кв.м у 150 м ад рэчкі; а/м Нісан Алмера Тына, 2002 г.в., 2,2 ДТ. Т. (8-044) 7108698.*
- Дом у Маладзечне, абмен на кватэру. Т. (8-029) 8576357.*
- Дом у Маладзечне, вул.Крылова, 40, 39000 у.а. Т. (8-029) 7665327, (8-044) 7408147.*
- Дом у п.Беразінскае, 20 км ад Маладзечна. Т. (8-0176) 2725959, МТС (8-029) 2799029.*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ПЕРАМОЖЦЫ

# Названыя лаўрэаты прэміі “Талент-2013”

**МАЛАДЗЕЧНА. Урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў творчага конкурсу работнікаў культуры адбылося ў Маладзечне 11 кастрычніка. Мерапрыемства было прымеркаванае да Дня работнікаў культуры.**

Сёлета ўзнагароджанне адбылося ў шасці намінацыях.

Лепшым кіраўніком аматарскага творчага калектыву названы **Рыгор Сарока**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра.

Лепшым настаўнікам – выкладчык сольных спеваў, намеснік дырэктара Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага **Георгі Юрэвіч.**

Лепшым бібліятэкарам – **Таццяна Закрэўская**, загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.

Лепшым мастаком – **Таццяна Туроўская**, начальнік мастацка-афармiцельскага аддзела Палаца культуры.

Лепшым культработнікам – **Наталля Цар**, начальнік аддзела аматарскай творчасці Палаца культуры.

Лепшым дырэктарам – дырэктар Маладзечанскай школы мастацтваў **Уладзімір Яцыновіч.**

– Прэмія “Талент” уручаецца па ініцыятыве Маладзечанскага выканаўчага камітэта ўжо не першы год. Але намінацыі штогод розныя, вызначаюцца яны па асаблівых поспехах у той ці іншай галіне мастацтва, – гаворыць намеснік дырэктара па арганізацыйна-масавай рабоце Палаца культуры **Галіна Акулёнак.**

Нягледзячы на асаблівую ўрачыстасць і сур'ёзнасць мерапрыемства, на свяце знайшлося месца іроніі і здароваму гумару. Душэўна павіншаваў сваіх калег з прафесійным святам начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч.** Майстрам з народнага цэнтра рамёстваў Аляксандр Рамановіч падзякаваў за іх “ачмурэлыя ручкі”, за іх важную і вялікую працу; аддзелу адукацыі – за іх недаспаныя ночы, за тую працу, што праводзяць з моладдзю; сродкам масавай інфармацыі, у тым ліку і “Рэгіянальнай газеце”, за тое, што заўсёды знаходзяцца ў патрэбным месцы і ў патрэбны час.

Свята завяршылася канцэртнай праграмай ансамбля памежнай службы Беларусі.

**Наталля ТУР.**

ВЫСТАВА

## Музей запрашае на “вандроўку па зямлі і прасторы”

**МАЛАДЗЕЧНА. Пад такой назвай 18 кастрычніка ў краязнаўчым музеі адкрываецца выстава мастака Мікалая Аўчыннікава.**

Урачыстае адкрыццё выставы адбудзецца ў пятніцу, а 17 гадзіне. У адкрыцці возьме ўдзел **Уладзімір Пракапцоў**, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея, калегі і сябры мастака.

Уладзімір Пракапцоў пра творчасць Мікалая Аўчыннікава сказаў: “Аўтар – тонкі лірык. Працы яго не выдзяляюцца яркай дэкаратыўнасцю і кідкасцю, але разам з тым прыцягваюць да сябе патаемным унутраным святлом, запрашаюць да роздуму пра Зямлю, Радзіму, Бацькаўшчыну. Імкненне да непарыўнай сувязі са сваімі каранямі, якія жывяць творчасць мастака, яго палітру, сугучную фарбам някідкай беларускай прыроды, стрыманым узорам посцілак і ручнікоў, праходзіць лейтматывам праз усю творчасць”.

Пабачыць на сваевочы акварэлі Мікалая Аўчыннікава можна будзе з 18 кастрычніка па 18 лістапада.

**Наталля ТУР.**

ПРАЕКТЫ

## Школьнікі спаборнічалі ў бібліятэцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Пакуль жыве апошняя кніга, жыве і нацыя – сцвярджалі ў 19 стагоддзі.**

Надышло 21 стагоддзе. І на кнігу сталі менш звяртаць увагі, даваючы ўсё больш інтэрнэту. Але мы, прафесіяналы-бібліятэкары, кажам “не і не”. Кніга – самы надзейны ў жыцці лоцман. Можна прыводзіць бясконцае мноства прыкладаў, як кніга зрабіла кагосьці сапраўдным чалавекам.

Кніга – гэта лепшае вынаходніцтва чалавецтва. І дарэчы, адкуль інтэрнэт сцягвае свае рэсурсы? Вядома ж, з той кнігі, якая была выдадзеная цяпер ці шмат стагоддзяў таму.

Мы, бібліятэкары, імкнёмся ўсімі сродкамі прапагандаваць яе Вялікасць кнігу. Зусім невыпадкова мы распрацавалі праект “Па кніжным свеце”, разлічаны на вучняў агульнаадукацыйных устаноў, навучэнцаў каледжаў горада.

Улічваючы, што гэта падлеткі і навучанне ім лепш падаецца праз гульню, мы праводзім сваё падарожжа па кніжным свеце як гульнёвую праграму па залах бібліятэкі. Удзельнікі – вучні дзвюх школ, паміж якімі ідзе інтэлектуальнае спаборніцтва.

Атрымалася і цікава, і пазнавальна. Пасля знаёмства з заламі ўдзельнікі адказвалі на пытанні. “Колькі год старэйшай кнізе, якая была выдадзеная ў 1820 годзе”, – пытаецца супрацоўнік, трымаючы ў руках рэдкае выданне Карамзіна. Былі і такія: дзе на маладзечанскай зямлі жыў наш знакаміты паэт Максім Багдановіч, якія кодэксы існуюць у нашай краіне, як знайсці кнігу “Новая зямля” на паліцы?..

Цягам гадзіны падлеткі былі ў царстве кнігі і як чытачы, і як бібліятэкары. За кожны правільны адказ удзельнікі атрымлівалі жэтоны, а выйграла тая каманда, якая сабрала іх найбольш. У першым спаборніцтве перамаглі вучні 10-й гімназіі, а ў другім – вучні 12-й школы. Школьнікі былі задаволеныя тым, што адсталі гонар сваіх навучальных устаноў.

Хто ведае, можа, калісьці хто-небудзь з іх кіне “мышку” і прыйдзе ў бібліятэку за кніжкай, якая стане мудрым дарадчыкам у яго жыцці.

Інтэлектуальныя спаборніцтвы бібліятэка будзе ладзіць цягам года, а па заканчэнні вызначыць самых лепшых.

**Раіса ДАВІДОВІЧ,**
**бібліятэкар Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэкі.**

# Чыгуначныя пуці – зона павышанай небяспекі

**Чыгуначныя пуці з'яўляюцца небяспечнай зонай, бо існуе пагроза наезду рухомага саставу на людзей. Таму, знаходзячыся на пуцях, неабходна быць асабліва ўважлівым, выконваць усе патрабаванні бяспекі, бо парушэнне іх можа прывесці да цяжкіх наступстваў.**

Тэмп жыцця высокі. Людзі ўвесь час кудысьці спяшаюцца і лезуць пад колы вагонаў замест таго, каб падняцца на пераходны мост або прайсці праз пуці ва ўстаноўленых месцах.

Яны ходзяць па рэйках, выскокваюць з вагона на хаду і г.д. Часта ўсё гэта заканчваецца трагічна. Пад коламі цягнікоў гіне і траўмуецца людзей у шмат разоў больш, чым у крушэннях і аварыях.

Каб людзі адчуваліся сябе бяспечна і каб весці барацьбу з невытворчым траўматызмам, затрачваюцца вялікія сродкі. Прымаюцца розныя меры для таго, каб ліквідаваць ці звесці да мінімуму такія няшчасныя выпадкі.

У гэтых мэтах ўкараняецца аўтаматыка, тэлемеханіка, электроніка, найноўшыя сродкі сувязі. На станцыях і раз'ездах усё больш будуецца зручных для карыстання пасадачных платформаў, узводзяцца пуцеправоды, пешаходныя масты і тунелі, узмацняецца асвятленне.

Чыгуначнікі разам з тэрытарыяльнымі органамі ўлады вядуць растлумачальную работу сярод насельніцтва, выдаюцца памяткі, памнажаецца лік указальнікаў і плакатаў. Прадугледжваюцца і штрафныя санкцыі да парушальнікаў, калі іх праступкі не прыводзяць да судовай адказнасці.

Неабходна актывізаваць растлумачальную работу сярод бацькоў і ў школах. Дзеці часта не ўсведамляюць ступені небяспекі.

На жаль, дарослыя і самі нярэдка становяцца ахвярамі паспешнасці і няўважлівасці. Сярод траўмаваных больш за траціну – гэта асобы ў нецвярозым стане.

У барацьбе з невытворчым траўматызмам добра выкарыстаць усе магчымыя формы і сродкі. Трэба пераканаць чалавека, што хадзіць па пуцях вельмі небяспечна. І не варта гуляць з жыццём, нават калі вельмі спяшаешся!

Хаджэнне па пуцях – прамая пагроза бяспекі руху цягнікоў. Уяўляеце, як сябе адчувае лакаматыўная брыгада, калі наперадзе на пуцях староннія людзі?

Кожны чалавек, нават не знаёмы з механікай, добра ведае, як нялёгка спыніць цяжкі прадмет, калі ён рухаецца па інерцыі. А якая сіла патрэбная, каб спыніць грузавы або пасажырскі цягнік, які ідзе на вялікай хуткасці!

Састаў грузавога цягніка вагой 3 - 7 тысяч тон, напрыклад, рухаецца з хуткасцю 70 - 80 кіламетраў у гадзіну. Тармазны шлях можа мець розную даўжыню. У грузавога 800 - 1200 метраў, а ў экспрэса пры хуткасці 140 - 160 км/г – паўтара і больш за кіламетр.

Так як цягнік рухаецца і праз густы лес і па крывых участках пуці, то нярэдка машыніст бачыць каляіну толькі на 200 - 300 метраў.

Няшчасныя выпадкі адбываюцца і з пасажырамі, якія спрабуюць ускочыць у вагон на хаду ці выскачыць з яго да поўнага спынення. Нярэдка пасажыры саскокваюць з пасажырскіх платформаў на рэйкавыя пуці і трапляюць пад цягнік.

Нарэшце, яшчэ аб адной небяспецы для тых, хто знаходзіцца паблізу пуці, калі міма праходзіць цягнік. Правілы паводзін у цягніку забараняюць выкідваць з вагонаў смецце ці якія-небудзь прадметы. І не толькі таму, што гэта забруджвае чыгуначныя пуці. Выкінутыя праз акно ці дзверы вагона бутэлькі, бляшанкі і іншыя нават і не цяжкія прадметы ўяўляюць вялікую небяспеку для людзей, якія апынуліся каля цягніка.

Нярэдка моладзь бачыць задавальненне ў тым, каб кінуць што-небудзь у бок цягніка, які праходзіць. Пакутуюць пры гэтым пасажыры або лакаматыўная брыгада. Таму, калі вы апынуліся каля чыгуначнага пуці, загадзя адыдзіце далей.

Самым моцным і надзейным сродкам ад няшчасных выпадкаў павінна стаць, перш за ўсё, наша ўсведамленне і разуменне, што нічога няма больш страшнага за тое, калі з жыцця сыходзіць чалавек “па дурасці”.

Чыгунка – не месца для прагулак і дзіцячых забаў. Здавалася б, вядомая ісціна, і ўсё ж для некаторых яна не стала правілам, каб захаваць здароўе і жыццё.

Штогод на чыгунцы нашай рэспублікі гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі.

Няшчасныя выпадкі наносяць велізарную шкоду. Тут і прамыя страты ад разбурэння транспартных сродкаў, псавання грузаў і чыгуначных збудаванняў. Але галоўнае – чалавечыя страты.

Аналіз няшчасных выпадкаў, не звязаных з вытворчасцю, за 2012 паказаў, што ў параўнанні з такім перыядам 2011 года колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай, што выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам ці жывуць паблізу чыгункі.

За 12 месяцаў 2012 года на ўчастках Беларускай чыгункі адбылося 87 выпадкаў траўмавання грамадзян рухомым саставам. Пацярпелі 88 чалавек, з якіх 63 – са смяротным зыходам.

За першы квартал 2013 адбылося 25 выпадкаў траўмавання грамадзян (супраць 22 у 2012 годзе за аналагічны перыяд). Колькасць са смяротным зыходам склала 16 чалавек (17 у 2012 г.). У межах Маладзечанскай дыстанцыі пуці за 2012 пацярпелі 8 чалавек, з іх 6 чалавек – са смяротным зыходам. З пачатку 2013 на тэрыторыі Маладзечанскай дыстанцыі пуці адбыліся тры выпадкі смяротнага траўмавання грамадзян.

На жаль, многія пешаходы да папераджальных сігналаў на станцыях і пераездах ставяцца як да капрызаў чыгуначнікаў, праяўляюць бяспечнасць, імкнуцца скараціць шлях і пераходзяць рэйкавую каляіну ў любым, не ўстаноўленым для гэтага месцы. І расплачваюцца за сваю недысцыплінаванасць уласным здароўем і жыццём.

**Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінен ведаць і выконваць наступныя Правілы бяспекі на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзьце чыгуначныя пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўсталяваныя ўказальнікі “Пераход праз пуці”.
2. Перад пераходам пуці па пешаходным насціле спярша пераканайцеся ў адсутнасці рухомага саставу, лакаматыва.
3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, пераходзьце.
4. Падыходзячы да чыгуначнага пераезда, уважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй, а таксама становішчам шлагбаўма. Пераходзьце пуці толькі пры адкрытым шлагбаўме, а пры яго адсутнасці перш пераканайцеся, ці не набліжаецца да пераезда цягнік, лакаматыў.
5. Садзіцеся ў вагоны і выходзьце з вагонаў толькі пасля поўнага спынення цягніка і з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад цягніком, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго накірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках набліжацца да не агароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Правозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў і ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і дальняга следавання.

Маладзечанская дыстанцыя пуці, калектыў якой звяртаецца з гэтым лістом да чытачоў, размешчаная ў 9 раёнах Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцей. Калектыў абслугоўвае больш за 700 кіламетраў чыгуначнага пуці, 91 пераезд, 74 прыпыначныя пункты і вялікую колькасць іншых збудаванняў чыгуначнага транспарту.

Усім нам далёка неабыякавы лёс людзей, якія загінулі або атрымалі траўмы на пуцях: ні машыністу цягніка, які пасля спынення саставу спяшаецца на дапамогу, ні работнікам пуці, каб даставіць пацярпелых сваімі сіламі і транспартам ў спецыяльныя ўстановы і правесці службовае расследаванне.

Паважаныя чытачы газеты, будзьце асабліва ўважлівыя на чыгунцы. У гэтым залог Вашай бяспекі і бяспекі Вашых родных і блізкіх.

**Маладзечанская дыстанцыя пуці.**
УНП 600199567

■ ТУРЫЗМ

# Экстрэмальны водны паход

**МАЛАДЗЕЧНА. Экстрэмальны водны паход другой катэгорыі складанасці ў няпростых метэаралагічных умовах здзейснілі навучэнцы Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа.**



Фота забяспечана Сяргеем ПУЧКІНЫМ.

Старт адбыўся ад паўднёва-ўсходняга берага возера Вялікія Швакшты.

Чатыры экіпажы на турысцкіх каноэ тыпу "Апач", сярод якіх былі дзве дзяўчыны, прайшлі за два дні 40 кіламетраў па рацэ Страча. У мінулыя часы звычайны паход, без асаблівых цяжкасцяў. Але за апошнія дзесяць год шмат што памянялася: бабры нарабілі запруд, берагі пазарасталі чаротам, трыснягом. Рэчка вельмі звузілася, забалацілася і ў некаторых месцах стала непраходнай. Але турысты ўсяго гэтага не ведалі.

Да возера Вялікія Швакшты ўдзельнікаў давезлі на аўтобусе каледжа, а лодкі – на грузавіку. Спакавалі каноэ, на сябе надзелі непрамакальныя касцюмы і выратавальныя камізэлькі. Старт адбыўся ад паўднёва-ўсходняга берага. Дзьмуў вельмі моцны сустрэчны вецер – прыйшлося прыціскацца да берагоў. Даволі цяжка было знайсці пачатак рэчкі. Але гэтыя цяжкасці вандроўнікі пераадолелі.

Праз тры кіламетры трапілі ў возера Малыя Швакшты, моцна зарослае з паўднёвага берага. Выхад з возера знайшлі хутка, але тут пачалося. Трыснёг і чарот вельмі моцна звузілі раку, а баброўыя запруды запаволілі яе рух. Праз запруды лодкі прыйшлося перацягваць, праз зараснікі прабівацца. А надвячоркам увогуле падарожнікі ўперліся ў балотныя напльвы, праз якія праходу не было. Ні прабрацца, ні аб'ехаць.

Правялі невялікую нараду і вырашылі заначаваць, а раніцай пашукаць праход. Давялося вярнуцца на два кіламетры назад, дзе былі дрэвы і хоць нейкая суша. Палаткі паставілі на цыраты, назбіралі дроў, загатавалі ваду і заварылі гарбату, а спяваць песні прыйшлося з палатак.

Ранішняя разведка вынікаў не дала: вакол балота і абнесці лодкі немагчыма. І прыйшлося капітану прыняць вельмі нялёгкае рашэнне – першы раз у жыцці павярнуць назад. Трыснёг і чарот былі намі ж "прычэсаныя" супраць і прабівацца праз іх было нашмат цяжэй. Павароты, запруды і іншыя перашкоды прыйшлося зноў пераадольваць.

Але цяжкасці загартоўваюць; і хоць пад вечар і спіна, і рукі ледзь разгіналіся, усе былі задаволены вынікам. Начавалі на цвёрдай глебе, на беразе возера Вялікія Швакшты. Праўда, ноччу тэмпература ўпала амаль да замаразкаў.

Ля вогнішча адбылося пасвячэнне ў матросы навічкоў. Працэдура простая і нават прыемная: вяслом ніжэй спіны і вострых рыбы бутэрброд з салёна-салодкай гарбатай. Надалей былі песні пад гітару, успаміны пра цяжкасці маршруту. А раніцай прыехалі аўтобус з грузавіком і забралі турыстаў у Вілейку.

На касмічных здымках (maps.google.com) бачна, што праходу насамрэч няма. У летніх умовах можна паспрабаваць з дапамогай бусакоў (доўгіх палак) прапхнуцца праз балотныя напльвы. Але ж летам яшчэ і камары з мошкамі!

**Сяргей ПУЧКІН,**
**кіраўнік паходу.**

■ ФУТБОЛ

## Лік 1:0. "Маладзечна-2013" перамагае Кобрын

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 13 кастрычніка, на гарадскім стадыёне адбылася чарговая гульня другой лігі чэмпіянату краіны па футболе. Маладзечанцы прымалі каманду з Кобрына.**

У першым тайме перавага, безумоўна, была на баку маладзечанцаў. Ужо на 16-й хвіліне матча я налічыла чатыры вострыя моманты, што стварылі гаспадары ля варотаў саперніка. Але мяч у сетку трапляць не спяшаўся. Запаветнага гола давялося чакаць амаль увесь першы тайм. Толькі на 44-й хвіліне **Дзяніс Жыліч** (№ 8) адкрывае лік матча.

Другі тайм вызначыўся больш асцярожнай гульнёй маладзечанцаў. Каманда Кобрына, наадварот, дабаўляе тэмп. На 80-й хвіліне матча, калі да фінальнага свістка застаецца ўсё менш часу, нават з трыбун бачна, як хвалююцца і трэнеры, і каманды.

Трэнер каманды "Маладзечна-2013" **Дзяніс Мятліцкі** дае парады сваёй камандзе: "Не давайце думаць саперніку! Асцярожна! Нам не трэба забіваць яшчэ адзін гол!"

І, нягледзячы на імклівыя атакі саперніка, на атрыманую жоўтую картку, галкіпер маладзечанцаў **Андрэй Пуляк** мужна адстойвае свае вароты. Фінальны лік застаецца нязменным: 1: 0.

Хочацца адзначыць, што атмасфера на стадыёне была па-сапраўднаму спартыўнай. Заўзятары каманды Маладзечна і каманды Кобрына, што прыехалі на матч, падтрымлівалі свае шчыра, без узаемных абраз. У канцы матча гульцы каманды "Маладзечна-2013" узяліся за рукі, каб падзякаваць сваім прыхільнікам за падтрымку.

Каманда "Маладзечна-2013" на сённяшні дзень займае восьмы радок турнірнай табліцы. Да канца чэмпіянату застаецца пяць матчаў, а значыць, у каманды роўна пяць магчымасцяў скончыць чэмпіянат на больш высокіх пазіцыях турнірнай табліцы.

**Наталля ТУР.**

■ ХАКЕЙ

## "Лядовыя пінгвіны" супраць "Hawks". Лік 5: 5

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу ў Лядовым палацы адбыўся матч чэмпіянату аматарскай хакейнай лігі ў дывізіёне "Аматар".**

Гонар маладзечанцаў адстойвала каманда "Лядовыя пінгвіны". Ім супрацьстаяла каманда з Мінска "Hawks".

Лік адкрылі госці на трэцяй хвіліне матча. Але ўжо праз хвіліну маладзечанцы зраўнялі лік. А на 12-й хвіліне выйшлі наперад.

"Лядовыя пінгвіны" вялі ў ліку практычна да канца сустрэчы, але каманда "Hawks" на апошніх секундах матча, дакладным пападаннем у вароты маладзечанцаў, зраўняла лік.

Наступная гульня чэмпіянату адбудзецца 18 кастрычніка ў маладзечанскім Лядовым палацы. Супрацьстаяць "Пінгвінам" будзе каманда "К-2 Energy" (Мінск), якая на сённяшні дзень займае першы радок турнірнай табліцы. "Лядовыя пінгвіны" ж замацаваліся на трэцім радку.

**Наталля ТУР.**

■ НАВІНЫ

## "Смаргонь": доўгачаканы гол і перамога

**СМАРГОНЬ**. Матч 24-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" правёў на дамашнім стадыёне. Гульня з камандай "Хваля" (Пінск) адбылася 12 кастрычніка.

Нарэшце смаргонцы здолелі перарваць безгалявую серыю: абыгралі "Хвалю" з лікам 1:0. Гол быў забіты ў канцы матча: на 88-й хвіліне вызначыўся **Мікалай Рындзюк**.

Вось што расказаў у інтэрв'ю сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер клуба "Смаргонь" **Павел Бацюта**:

– У апошніх трох турах мы не маглі забіць, а сёння каманда нарэшце паразіла вароты саперніка, і гол аказаўся пераможным. У гульні было шмат жорсткіх сутыкненняў і барацьбы за ініцыятыву на полі, але ўдача была на нашым баку: мы вырвалі перамогу ў канцоўцы.

"Смаргонь" з 36 ачкамі займае восьмае месца ў турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" зноў выйграе з лікам 3:1

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 23-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 12 кастрычніка "Маладзечна-ДЮСШ-4" у гасцях гуляла з адным з аўтсайдараў – клубам "Колас" з Чэрвеня. Як і ў мінулым туры, маладзечанцы выйгралі з лікам 3:1. Два галы ў іх забіў **Майсяёнак**, адзін – **Бугай**, паведамляе сайт Мінскай абласной федэрацыі футбола.

"Забудова-2007" дома сустракалася з лідарам чэмпіянату – ФК "Узда". Футбалісты з Чысці здолелі забіць моцнай камандзе тры галы (два з іх на рахунку **Мікіты Мятліцкага**, адзін – **Марціновіча**). Аднак прапусцілі чатыры. Вынік сустрэчы 3:4.

У турнірнай табліцы па-ранейшаму "Маладзечна-ДЮСШ-4" на трэцім месцы, "Забудова-2007" – на дзясятым.

## "Першы Беларускі" і "Буддэталі" разыграюць першае месца

**ВІЛЕЙКА.** У матчы апошняга тура чэмпіянату Вілейскага раёна па футболе 13 кастрычніка "Першы Беларускі" і "Фламетр" згулялі ўнічыю 1:1. "Чурлёны" прайгралі "Буддэталям" 1:4.

– Уладальнікі першага і другога месцаў вызначацца ў прапушчаных матчы. У ім сустрэнуцца "Першы Беларускі" і "Буддэталі". "Буддэталям" неабходная перамога, каб абысці "Першы Беларускі" і заняць першае месца, – паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футболу **Ігар Шабан.**

## Школьнікі беглі крос

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 8 кастрычніка прайшоў раённы восеньскі лёгкаатлетычны крос. У ім удзельнічалі 15 камандаў устаноў адукацыі Мядзельшчыны. У залежнасці ад узросту дыстанцыі складалі ад аднаго да трох кіламетраў.

У групе "А", дзе спаборнічалі школы з колькасцю вучняў больш за 100, з вялікім адрывам перамаглі прадстаўнікі Будслаўскай сярэдняй школы. На другім месцы – вучні Крывіцкай школы-сада, на трэцім – СШ №2 Мядзела, паведаміла метадыст раённага метадычнага кабінета аддзела адукацыі, спорту і турызму **Ніна Самко**.

У групе "Б" не было роўных камандзе Сырмежскай школы-сада. Другімі сталі прадстаўнікі Старлыгскай школы-сада, трэцімі – Слабодскай школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ КОНКУРС

## Выйграй білет на матч "Смаргоні"

**СМАРГОНЬ. Каб прыняць удзел у сумесным конкурсе "Рэгіянальнай газеты" і афіцыйнага сайта ФК "Смаргонь", вам трэба ўгадаць лік матча "Полацк"– "Смаргонь".**

Матч 25-га тура пройдзе 19 кастрычніка ў Полацку. "Смаргоні" будзе супрацьстаяць каманда, якая займае перадапошняе месца.

Ваш адказ можаце дасласць да 12 гадзін 19 кастрычніка (субота) праз SMS на нумар **8(044) 566-26-99** ці пакіньце у каментарах пад адпаведнай інфармацыяй на сайце rh.by або ў групе ФК "Смаргонь" "Вконтакте", на афіцыйнай старонцы клуба ў Facebook. Укажыце ваша імя і нумар мабільнага ці адрас электроннай пошты.

Кожны, хто дашле правільны адказ, будзе ўзнагароджаны білетам на наступную дамашнюю гульню "Смаргоні".

Першы, хто дашле SMS з адказам, атрымае сувенір ад "Рэгіянальнай газеты".

**Аддзел інфармацыі.**

ШКОЛА

# Як пра маму думаюць у школе

**ВІЛЕЙКА. Напярэдадні Дня маці ў Вілейскім раёне прайшоў конкурс на лепшае сачыненне. У гэты святочны дзень, 14 кастрычніка, у цэнтральным Доме культуры ўзнагародзілі дзевяць пераможцаў у трох намінацыях: "Лепшае сачыненне", "Малюнак" і "Верш".**

У намінацыі "Лепшае сачыненне" адзначылі вучаніцу 10 "А" класа СШ №3 **Дыяну Паўлоўскую**. Яе тэкст і прыводзім.

Заўважаем, што сачыненне надрукаванае не цалкам.

**Мама**

Хто для нас мама? Чалавек, які будуе нашу дарогу ў жыцці, адкрывае новы свет, імкнецца агарадзіць ад шэрых фарбаў будзённай руціны. З ёй кожны дзень напаўняецца асаблівым сэнсам, клопатам і радасцю.

Дык што ж для нас значыць мама? Няўжо яна ўсяго толькі падарыла жыццё? Не. Яна размалявала жыццё яркімі, вясёлкавымі фарбамі. Узгадайце, колькі шчаслівых дзён падарыла! Калі б не яна, дзяцінства не было б такім светлым і поўным сонечнага цяпла. Нават калі мамы далёка, яны ўсё роўна блізкай за ўсіх: адчуваюць нас, усе нашы трывогі і мары.

Мамы заўсёды гатовыя аддаць апошняе і працаваць не пакладаючы рук толькі для таго, каб мы адчувалі сябе ўпэўнена. Яны ведаюць усе самыя заблытаныя хады ў лабірынтах нашай душы. Менавіта яны не спалі начамі, забыўшыся пра сябе, каб спалі мы, каб раслі і набіраліся моцы.

Мы заўсёды застанёмся для мам дзецьмі, нават калі ў нас будуць свае дзеці. Для мам мы ў любым выпадку лепшыя, нават калі лепшыя – не мы. Мамы даруюць тое, што дараваць немагчыма, забываюць тое, што нельга забыць, і зразумеюць тое, што не зразумее ніхто. І ведаеце, ім больш баліць, калі балюча нам, і яшчэ горш, калі гэты боль прычыняем мы.

Мамы – нашы анёлыахоўнікі. Хоць у іх ёсць сівізна, яны ўсё роўна для нас самыя маладыя. Цаніце моманты, праведзеныя побач з мамай, таму што мама – значыць, жыццё.

Акрамя Дыяны вызначыліся і яшчэ восем вучняў школ ды гімназій Вілейшчыны.

**Лепшае сачыненне**

**Дыяна Паўлава**, 10 клас, вілейская СШ №1

**Уладзіслаў Шупляк**, 7 "В" клас, вілейская гімназія №1 "Логас"

**Лепшы верш**

**Дыяна Ахрэм**, 8 "Б" клас, вілейская гімназія №2

**Вераніка Аляхновіч**, 11 "А" клас, вілейская СШ №3

**Елізавета Шутава**, 4 клас, Іжанскі вучэбна-педагагічны комплекс "Дзіцячы садок-базавая школа"

**Лепшы малюнак**

**Таццяна Місюль**, 4 "А" клас, вілейская пачатковая школа №6

**Наталля Кляшняк**, 8 "Б" клас, вілейская СШ №3

**Эвеліна Мікуліч**, 3 "А" клас, вілейская гімназія №2

**Настасся РОЎДА.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Зладзілі суботнік у Борках

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 12 кастрычніка, сабралася талака, каб прыбраць мемарыял Боркі.**

Ініцыяваў суботнік Хаценчыцкі сельсавет. Старшыня сельсавета **Святлана Валавік** таксама ўдзельнічала разам са школьнікамі і настаўніцай Ільянскай школы **Аксанай Ярашонак**, грамадскім актывістам **Алесем Раткевічам**, сябрамі Вілейскай філіі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Зміцерам Хаценчыкам** і **Дзянісам Канецкім**.

Добраахвотнікі прыбралі траву і лісце. Потым паставілі непадалёк ад мемарыяла камень, на які пазней плануюць прымацаваць шыльду.

Вынік працы Алесь Раткевіч ацаніў так:

– Стала нашмат святлей і чысцей.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**

ПЕРАМОЖЦЫ

## Узнагароджаныя ордэнам Маці

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 кастрычніка ў Нясвіжы адбылася цырымонія ўручэння ўзнагарод жанчынам, якія нарадзілі і выхавалі пяць ці болей дзяцей.**

Узнагароды шматдзетныя маці атрымалі з рук **Барыса Батуры**, старшыні Мінскага аблвыканкама.

Сярод узнагароджаных – тры шматдзетныя маці з нашага рэгіёна.

Гэта **Наталля Пякарская**, настаўніца пачатковых класаў Дубраўскай сярэдняй школы (Маладзечна), **Марына Цішэвіч**, дырэктар Пугачоўскага Дома культуры (Валожын), і **Алеся Шэмет**, прадавец прадуктаў харчавання з Маладзечна.

**Наталля ТУР.**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | 2 | 3 | | | |
| 2 | 9 | 7 | | | | | | 8 |
| | | 5 | | | 6 | 9 | | |
| | | | 1 | | | | 9 | 7 |
| | | 9 | | | | 2 | | |
| 5 | 2 | | | | 7 | | | |
| | | 6 | 4 | | | 7 | | |
| 3 | | | | | | 4 | 8 | 6 |
| | | | 6 | 7 | 8 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ГУЛЯЙ З РГ!

## Ці адгадаеце вы ўсе заданні?

**Для чытачоў "РГ" мы праводзім чарговую гульню.**

Адкажыце на некалькі пытанняў. Той, чый адказ будзе лепшым, атрымае падарунак: білеты ў тэатр, музычны дыск, салодкае і іншыя прызы.

Апошні дзень, калі можна даслаць адказы на пытанні гэтага нумара, – 21 кастрычніка. Можаце пісаць звычайным пісьмом: *222310, Мінская вобласць, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, "Рэгіянальная газета"*. Можаце даслаць па электроннай пошце: **regionnews@rh.by.**

**Пытанні:**

1. Які акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра 20 год грае Дзёмку ў п'есе "Камедыя"?
2. Як завуць дырэктара Вілейскага прафесійна-тэхнічнага каледжа?
3. Колькі на рынку каштуе сялянскае малако?
4. Як завуць маладую маму, якая сёлета нарадзіла 1000-е дзіця на Маладзечаншчыне? (глядзіце ў №41)
5. З якім лікам скончыўся матч 21 тура 6 кастрычніка Маладзечна-Орша? (глядзіце ў №41)

**Аддзел інфармацыі.**

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастычная драма "**Гравітацыя**", 3D (ЗША, Вялікабрытанія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18 кастрычніка – 16.30
19 кастрычніка – 14.30, 16.30
20 кастрычніка – 14.00
21 кастрычніка – 19.00
22 кастрычніка – 21.00
23, 24 кастрычніка – 16.30
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў

Ваенная драма "**Сталінград**", 3D (Расія, 2013, да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18, 19 кастрычніка – 18.30, 21.00
20 кастрычніка – 16.00, 18.30, 21.00
21 кастрычніка – 21.00
22 кастрычніка – 18.30
23, 24 кастрычніка – 18.30, 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Меладрама "**Рэнуар. Апошняе каханне**" (Францыя)
18-20 кастрычніка – 17.30
21 кастрычніка – 21.30
22-24 кастрычніка – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Шанцуе! 3**" (Расія)
19, 20 кастрычніка – 16.00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Баявік "**Бяжы**" (ЗША)
18-20 кастрычніка – 19.30, 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Фантастыка, драма "**4:44. Апошні дзень на Зямлі**" (ЗША, Швейцарыя)
22-24 кастрычніка – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**"Маленькі свет..."** (жорсткая меладрама ў 2-х дзеях), Алена Папова
19 аўторак 19.00

ДА 50-ГОДДЗЯ ВЯДУЧАГА МАЙСТРА СЦЭНЫ АЛЯКСАНДРА ПАШКЕВІЧА
**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
22 аўторак 19.00

**"Любоў па-італьянску"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э.дэ Філіпа "Цыліндр"), Эдуарда дэ Філіпа
23 серада 19.00

**"Верная жонка"** (камедыя ў 2-х дзеях) Сомерсет Моэм
24 чацвер 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Храбры кравец "** (казка). Бр.Грым.
20 кастрычніка – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ГАРАСКОП (18-24 КАСТРЫЧНІКА)



**Авен.** Вам неабходна адмовіцца ад спажывання алкаголю. Нават у мінімальных дозах ён будзе дзейнічаць на ваш арганізм разбуральна. Могуць пацярпець печань, ныркі, сэрца, сасуды. Вучыцеся быць сабой і не ідзіце на повадзе натоўпу.



**Цялец.** Калі вам удасца з гонарам вытрымаць удары лёсу, зоркі возьмуць вас пад сваю апеку і паклапоцяцца пра тое, каб далей складвалася ўсё ўдачна.



**Блізняты.** Калі вам захочацца новых уражанняў, то можна адправіцца ў якую-небудзь турыстычную паездку, толькі не сядзіце ўвесь час у сацыяльных сетках.



**Рак.** Давярцеся ўласнай інтуіцыі, яна падкажа, вырашэннем якіх праблем можна і трэба заняцца менавіта цяпер.



**Леў.** На першы погляд нічога важнага адбывацца не будзе. Але нейкія працэсы патаемна будуць аказваць уплыў на настрой і самаадчуванне.



**Дзева.** Звярайце свае "напалеонаўскія" планы з рэальным станам спраў і не патурайце сваёй "авантурнай жылцы".



**Шалі.** Калі вам захочацца абнавіць дамашнюю прастору, захочацца стварыць камфортную атмасферу для ўтульнага адпачынку, то дзейнічайце – вам гарыць зялёнае святло.



**Скарпіён.** Выхадныя прысвяціце актыўнаму адпачынку, менавіта ён дасць пазітыўныя эмоцыі, у якіх вы так маеце патрэбу. Могуць узнікаць рознагалоссі з каханым чалавекам, але, каб пазбегнуць спрэчак, праявіце стрыманасць.



**Стралец.** Пазбягайце неабдуманых учынкаў, здзейсненых пад уплывам эмоцый. Не вырашайце пытанні там, дзе вы не спецыяліст. Лепш звярніцеся па дапамогу.



**Казярог.** Пастарайцеся пазбегнуцьператамлення, забяспечце сабе максімум магчымасцей для паўнацэннага адпачынку. Пагрузіцеся ва ўспаміны, прааналізуйце сваё мінулае, дайце ацэнку ўчынкам.



**Вадалей.** Увасабляйце ў сваё жыццё нешта новае, не бойцеся спантаннасці і непрадказальнасці. Але не будзьце такімі даверлівымі, бо гэтым могуць скарыстацца негатыўна настроеныя людзі.



**Рыбы.** Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымлівацца, любыя пытанні вырашацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



Камент-эксперт




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +9 | | +4 / +7 | | +1 / +4 | | +2 / +4 | |
| | 733 | ↑ 6 | 744 | ↘ 7 | 749 | ↑ 3 | 747 | ↓ 2 |
| Вільня | +6 / +11 | | +2 / +8 | | +3 / +4 | | +1 / +5 | |
| | 739 | ↖ 5 | 753 | ↘ 5 | 748 | ← 2 | 756 | ← 2 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 7.50
Захад 18.05
Даўжыня дня 10.15

Усход 18.11
Захад 08.14
Квадра 2




## ПРЫКМЕТЫ

- Дзень Сяргея (20 кастрычніка). У некаторых мясцінах Беларусі гэты дзень лічылі пачаткам зімы.
- Калі ліст з бярозы і дуба апаў чыста – лёгкі год, не чыста – цяжкая зіма.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Мастацкі кіраўнік Мінскага абласнога драмтэатра Мікалай Дзінаў у кастрычніку святкуе 55 гадоў у тэатральным жыцці. Што яго туды прывяло, як склаўся яго тэатральны лёс, чытайце ў наступным нумары "РГ".**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО

* Падчас вячэры чалавек глытае прыкладна 300 разоў.

* У жырафы чорны язык, які ў даўжыню можа дасягаць 45 сантыметраў.

* Больш шанцаў, што на вас нападзе карова, чым гэта зробіць акула.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

# Калі пачынаецца старасць?



**Лілія Аўсянік, рэвізор аўтобуснага парка №5:**

– Усе залежыць ад твайго ўспрымання: можна ў 17 год быць старым, а ў 70 – маладым.



**Рыгор Варановіч, пенсіянер:**

– Старасць пачынаецца тады, калі чалавек пачынае сябе дрэнна адчуваць. Пэўна, пасля 60 год гэта ўжо старасць. Хаця мне ўжо 75, але паколькі адчуваю сябе няблага, то і не лічу сябе старым.



**Вольга Свідуковіч, супрацоўніца энергазбыту:**

– Напэўна, старасць залежыць ад стану здароўя. Калі становіцца цяжкавата дыхаць, хадзіць, па лесвіцы падымацца, то ўжо і старасць блізка.



**Аксана Бурак, гандлёвы работнік:**

– Лічу, што старасць пачынае падкрадвацца пасля 30 год. Адчуваеш, што то адно, то другое баліць, больш глядзіш за сабой, разумееш, што здароўе трэба берагчы з маладосці.



**Ніна Жук, пенсіянерка:**

– Старасць пачынаецца ў душы. Напэўна, гэта тады, калі душа не спявае, сумныя думкі прыходзяць, калі не бачыш прыгожага ў жыцці, не можаш радавацца яго кожнаму імгненню.



**Тэрэса Томкавіч, пенсіянерка:**

– Мне ўжо 65, але я не лічу сябе старой. Таму што душа яшчэ хоча радавацца жыццю, бачыць яго прыгажосць, прыносіць карысць родным і блізкім.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 42 (963) 18.10.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 952. Падпісана ў друк у 10.00 17.10.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.